Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 53 Чацьвер, 25-га Сьнежня 1924 г. Год I.




Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Віншуем нашых чытачоў са сьвятам Хрыстовага Нараджэньня!

# Настаўніцкі Зьезд.

18-га і 19-га гэтага сьнежня ў Вільні адбыўся зьезд настаўнікаў беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў у Польшчы.

Ня гледзячы на гэткі нявыгадны для настаўнікаў час, дзеля таго, што школьны год на пераломе і праца школьнае йдзе, ў назначаны час зьехалася 86 дэлегатаў ад настаўніцтва Віленшчыны, Наваградчыны, Горадзеншчыны й Палесься. На другі дзень зьезду прыбылі яшчэ дэлегаты і агульны лік іх дайшоў да цыфры 92.

Заслухаўшы даклады з месцаў аб палажэньні беларускага школьніцтва ў Польшчы і, ўзяўшы пад увагу тое, што яно ня толькі не разьвіваецца, а зводзіцца да нічога, настаўніцтва, якое было паклікана Беларускім Таварыствам „Прасьвета“ да таго, каб справу гэтую паставіць на ногі і арганізованна сіламі саміх масаў павясьці прасьвету шляхам асягненьня таго, што даўно зьяўляецца нашым законным правам, да канца ўтрымалася на вышыні свайго заданьня.

Ніхто ня думаў паднімаць на зьезьдзе тыя ці іншыя палітычныя момэнты, аднак-жа ад таго, што зьяўляецца прычынаю ненармальнага стану нашага школьніцтва ўхіліцца было трудна.

Палітычная нотка празьвінела на зьезьдзе адразу ня з вуснаў провінцыянальных дэлегатаў і ня з вуснаў арганізатараў зьезду, а стуль, скуль яе і трэ' было чакаць.

Есьць аснова думаць, што Цэнтральная Школьная Рада Таварыства Беларускае Школы, ці праўдзівей яе „душа“ ня будучы сама на Зьезьдзе, старалася цераз частку тых сваіх сяброў, якія на зьезд зьявіліся і якіх ніхто ня думаў і ня думае адхіляць ад вялікае прасьветнае справы, пастаралася бліснуць сваею палітычнаю мудрасьцяй.

Увайшоўшы у Прэзыдыум Зьезду віцэ-старшынёю і прывітаўшы зьезд ад Віленскае Беларускае Гімназіі, Дырэктар яе грам. Р. Астроўскі запрапанаваў паслаць ад імя зьезду дзьве тэлеграмы: адну на імя міністра Тугута, як тварца языковых законаў, а другую — на імя Беларускага Пасольскага Клюбу, як гэтак сама... зрабіўшага шмат чаго дзеля выхаду ў сьвет гэтых законаў.

Ня думаем, каб грам. Астроўскі ня меў у галаве простае лёгічнае думкі, магчыма што ён бяз ніякае задняе мыслі прапанаваў дзьве тэлеграмы, якія адна адну выключаюць. Магчыма, што грам. Астроўскаму нечы хітры розум падказаў зрабіць падобнае выступленьне дзеля таго, каб пасьля адтрымалася ўражаньне, што на зьезд сабралася нейкая палітычная блазнота, а ўся соль беларускай нацыянальнай думкі крыецца ў Пасольскім Клюбе і ў сфэры яго ўплываў.

Зьезд добра разумеў тую часьць пасольскае працы па абароне інтарэсаў і правоў свайго беларускага насяленьня, якая зьяўляецца разумнай і карыснай, але для большасьці настаўнікаў зусім ясна, што праца Пасольскага Беларускага Клюбу над языковымі законамі тут ня пры чым, бо гэтае працы й ня было. Кожнаму вядома, што паслы нашыя лічылі языковыя законы выданымі дзеля заграніцы, а не для беларускага народу. Паслы ніякага лепшага законапроекту ў свой час у Сойм не падалі, ніякаю падробнаю крытыкаю языковых законаў не займаліся, хаця самі пасьля казалі прадстаўніком ураду, што насяленьне беларускае, акрэсьленымі ў гэтых законах, правамі хоча карыстацца, а значыцца прызналі, што законы пісаны ня толькі на экспорт, як яны раней даводзілі, а пісаны перш за ўсё для нашага народу.

Ці-ж падобнае прызнаньне таго, што вынікае з добрае волі народных масаў, якія прадстаўлены ў Сойме пасламі, гаворыць аб тэй „вялізнай“ працы паслоў у кірунку беларускае прасьветы, аб якой хацеў пачуць на настаўніцкім зьезьдзе грам. Астроўскі?

Проці яго прапазыцыі пасдаць прывітальную тэлеграму п. міністру Тугуту ніхто нічога ня меў, а над тэлеграмай беларускаму пасольскаму клюбу пачаліся гарачыя дэбаты і ў рэзультаце зьезд большасьцю 41 голасу пры 15-х проці і 30 устрымаўшыхся паіменным галасаваньнем адкінуў пасылку тэлеграмы беларускім паслом спэцыяльна з падзякаю за... языковыя законы.

Грам. Астроўскі, пасьля гэтага галасаваньня пакінуў зьезд, а з ім яшчэ 6 чалавек, вучыцялёў Віленскае Беларускае гімназіі.

Зьезд, паставіўшы сабе мэтаю працаваць на роднай прасьветнай ніве, не зацягнуўся, а спакойна павёў сваю працу да канца, выслаўшы на другі дзень тэлеграмы п. міністру Тугуту і Сойму.

На другі дзень (19.XII) працавалі сэкцыі: 1) сярэдніх школаў, 2) пачатковых школаў і 3) арганізацыйная, якія правялі цераз пленум Зьезду з некаторымі папраўкамі апрацованыя імі рэзалюцыі.

Перад галасаваньнем гэтых рэзалюцыяў на зьезд прыбыў Куратар Віленскага Школьнага Вокругу п. Гонсіороўскі, з прывітальнае прамовы якога было ясна, што школьная праца, а не палітыканства, магчыма для беларускага, няшчаснага дасюль, настаўніцтва ў Польшчы, што ўрад цьвёрда рашыў даць насяленьню школу з тэю моваю, з якою насяленьне мець школу хоча.

Настаўніцкі зьезд пастанавіў арганізавацца ў Таварыства „Прасьвета“ і арганізованна вырашаць тыя прасьветныя беларускія заданьні, якія акрэсьлены вельмі абшырна ў статуце „Прасьветы“.

Ад уласнае энэргіі беларускага грамадзянства ў найбольшай меры залежыць наша нацыянальная доля. Мы павінны выкарыстаць усе нашыя сілы, ўсе магчымасьці дзеля таго, каб народ наш ня гінуў у цемры.

А здаровыя сілы заўсёды знойдуцца ў народзе. Настаўніцкі зьезд хай будзе доказам таго, што мы не дарма паўгода таму назад паднялі голас проці цеснае беларускае гурткоўшчыны, прапагуючы тое, каб наш народ арганізованна і спакойна творчым шляхам адваёўваў сваё месца пад сонцам, як гэта робіць кожны культурны народ.

Вялікая прасьветная роля ўзята на сябе беларускім настаўніцтвам і народ ніколі не запомніць яго заслугі ў справе нашага нацыянальнага адраджэньня.

# Палітычны агляд.

Нядаўна ангельскі міністар заграпічных справаў Чэмбэрлэн, адбыў падарожу ў Рым праз Парыж. Мэта гэтай падарожы палягала ня ў тым, каб быць на сэсіі Рады Лігі Народаў у Рыме, ак афіцыяльна было апавешчана, а ў тым, каб спаткацца з прэм'ерам Францыі, Эрыё і прэм'ерам Італіі, Мусоліні. У асабістай гутарцы з імі абгаварваліся пытаньні, высунутыя эгіпецкімі і мараканскімі падзеямі на парэдні плян эўропэйскай палітыкі. Цэнтр цяжару эуропэйскай палітыкі зноў пераходзе на берагі Сярод'земнага мора, вакол каторага насьпяваюць важныя палітычныя падзеі. Праўда, конфлікты ў Мосулі, Мэццы, Судане і Эгіпце, пакуль што, ўладжаны. Але гэта — ледзь часовае зацішша перад новай бурай, каторая можа разгуляцца ў якую хаця мінуту. Падзеі гэтыя паказваюць на тое, што магамэтанскі сьвет уступіў у пэрыяд унутранага бражэньня, каторае ў некаторых мясцох вылілася ў адкрытыя конфлікты, а ў іншых — яшчэ толькі рыхтуецца да паўстаньня. Сыгналам да новых паўстаньняў павінны паслужыць перамогі мараканцаў над гішпанскімі войскамі. І каб гэтыя падзеі не звалiліся на

## II.

### Сэкцыя сярэдніх школаў.

1) Констатуючы, што сярэдніх школ амаль што няма на абшары Заходняй Беларусі, дзеля таго, што толькі ў аднэй Віленскай Гімназіі заняткі адбываюцца нармальна, пазасталыя-ж 3 (Навааградзкая, Радашкоўская і Клецкая) знаходзяцца ў пачатковым стане—зьезд прызнае неабходнасьць неадкладна прыступіць да адчыненьня сярэдніх школ, гдзе насьпела патрэба і ёсьць адпаведныя варункі і упанствовіць тыя з істнуючых гімназіяў, якія гэтага пажадаюць.

Вышэаазначаныя сярэднія школы—(ў Вільні, Навааградку, Радашкавічах і Клецку) прыватныя і ня толькі не адтрымліваюць ніякай урадовай дапамогі, але і адкрыты былі з вялікімі перашкодамі з боку прадстаўнікоў ураду, якія перашкоды істнуюць і ў апошнія часы.

2) Зьезд дамагаецца, каб матурысты беларускіх сярэдніх школаў мелі права на роўных падставах з матурыстамі польскіх школаў паступаць у вышэйшыя навуковыя заклады і каб ня прыходзілася беларусам шукаць вышэйшае адукацыі па-за межамі гаспадарства.

3) **Абтыпешколы.** Прымаючы пад, увагу, што мэтай беларускае школы павінна быць ня толькі выхаваньне беларускага інтэлігэнта, знаёмага з сусьветнай культурай, а таксама ўзгадаваньне працаўніка- практыка—зьезд прызнае, што з істнуючых у Польшчы сярэдніх школ перад усім пажадана школа тыпу рэальнага, а таксама і гуманістычныя школы і спэцыяльныя: сельска-гаспадарчыя, тэхнічныя і гандлёвыя.

4) Прымаючы пад увагу, што Віленская Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя павінна ўзгадаваць пастыраў для беларускага народу, зьезд прызнае неабходнасьць неадкладна прыступіць да зьбеларушчаньня Віленскае Дух. Сэмінарыі.

Сьцьвярджаючы, што вучыцялёў для беларускіх сярэдніх школаў далёка не хапае, а тыя што ёсьць вучыцялі ня ўсе адпавядаюць вымаганьням беларускае школы, зьезд прызнае неабходнасьць адчыненьня на ўрадовы кошт у летні час беларускіх курсаў для вучыцялёў сярэдніх школаў.

## III.

### Арганізацыйная сэкцыя.

Вітаючы ініцыятараў стварэньня Беларускага Т-ва „Прасьвета", зьезд Беларускага Настаўніцтва пастанаўляе: арганізавацца ў гэтым Таварыстве, каб мець магчымасьць праводзіць прасьветныя заданьні на беларускай ніве, азначаныя ў статуце Т-ва і арганізаваць яго аддзелы ў провінцыі.

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

Быўшы сьвянцянскі староста п. Забежоўскі адтрымлівае назначэньне на пасаду сэкрэтара віцэ-прэм'ера п. Тугута. П. Забежоўскі будзе загадаваць выняткова толькі крэсовымі справамі.

„Kur. Pol." піша, што ў бліжэйшым часе будуць выданы распараджэньні, якія маюць мэтаю ўнармаваць палажэньне на крэсах. Перш за ўсё мясцовыя ваяводзтвы і старастры адтрымаюць спэцыяльныя поўнамоцтвы. Зьменіцца сыстэма задаваленьня ўсялякіх просьбаў і сыстэма збору падаткаў. Зямельны Дзярж. Банк адтрымае вялікія крэдыты дзеля правядзеньня зямельнае рэформы і прысьпяшэньня адбудовы зруйнованых мясцовасьцяў у Польшы.

Прэзыдыум украінскага пасольскага клюбу выпусьціў паведамленьне, ў якім заяўляе, што клюб не даваў пазваленьня нікому з сваіх сяброў на ўваходжаньне ў лік сяброў „Крэсовае Рады", а тым болей не даваў пазваленьня паслу Ант. Васынчуку, які навет не зьяўляецца сябром украінскага соймавага клюбу.

Міністар Гандлю і Прамысловасьці выдаў распараджэньне аб карыстаньні мовамі і альфабэтам мясцовага насяленьня ўсходніх зямель пры паштова-тэлеграфных зносінах з варункам, што назовы мясцовасьцяў павінны быць напісаны згодна з афіцыяльным іх назовам.

„Kur. Pol." піша, што Украінскі пасольскі клюб проектуе апублікаваць адозву-протэст „да украінскага народу" з прычыны выдачы Соймам украінскіх пасолоў Чучмая і Васынчука.

Польскія газэты перадаюць, што гэтымі днямі адбудзецца назначэньне сэнатара Смульскага віцэ-міністрам унутраных справаў. Міністар п. Ратайскі, прымаючы пасаду, выразна выказаўся аб неабходнасьці назначэньня віцэ-міністрам асобы, якая добра знала-б крэсовыя адносіны. А п. сэн. Смульскі раней быў валынскім ваяводаю.

23 сьнежня палітычны камітэт Рады Міністраў разглядаў справу палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы. Пасьля паседжаньня п. прэм'ер прыняў, паміж іншым, праваслаўнага мітрапаліта Дзяніса, які быў таксама прыняты і міністрам п. Тугутам.

### За граніцай.

Асобнаю тэлеграмаю пасол Злучаных Амэрыканскіх Штатаў у Францыі паведаміў свой урад у Вашынгтоне, што ў Францыі няма ніякае камуністычнае небясьпекі.

З **Петраграду** паходзяць весткі, што ўва ўсіх буйных местах Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік адчуваецца брак хлеба. Савецкі ўрад закупляе збожжа ў Амэрыцы. Да гэтага часу куплена 30.000 тоннаў (тонна — 61 пуд.).

З **Лёндану** паведамляюць, што лёрд адміралтэйства ў кабінэце Макдональда Гудж, які быў раней рудакопам, вяртаецца да свае ранейшае прафэсіі.

**Венская** паліцыя гатова адбіць камуністычныя выступленьні безработных. 22 сьнежня арыштована было 33 чалавекі.

„Роста" перадае, што суд прыгаварыў да расстрэлу за ваеннае шпіёнства ў Адэсе румынцаў Бэрэсана і Душка.

З. **Рыму** паведамляюць, што Папа захварэў лёгкаю інфлюэнцаю.

**Югаславянскі** пасол падаў у **Лёндане** ноту з протэстам проці запэўненьня **альбанскага** ўраду, нібыто белградзкі кабінэт памагаў арганізацыі паўстаньня ў **Альбаніі.**

Згодна з апошнімі паведамленьнямі з **Мадрыду (Гішпанія)**, там заўважаецца моцны грамадзкі неспакой з прычыны афіцыяльнага паведамленьня аб тым, што Прымадэ-Рывэра ізноў пакінуў Тэтуан. У руках гішпанцаў знаходзіцца толькі тры месты ў **Мароко: Сэута, Сэльля,** Ляротэль. Сілы кабілаў растуць штодня. Гішпанскі гэнэралісімус зазначае ў прыказе упадак духу сярод войска.

З **Латвіі** паведамляюць, што ў мінулую нядзелю ўночы невядомыя асобы далі ў Рызе некалькі стрэлаў да вартаўніка пры складзе ваенных матар'ялаў на паўднёвым прадмесьці гораду. Салдаты адказалі страляньнем з вінтовак. Адзін з нападаўшых арыштованы. Прыпушчаюць, што замах гэты меў мэтаю нарабіць панікі (перапалоху).

З **Парыжа** паведамляюць, што міжнародны камітэт у Вэрсалі пад прэзэсоўствам Фоша разглядаў апошні рапарт кантр. кам. **ў Нямеччыне** і рэдагаваў рад палажэньняў, якія будуць прадстаўлены радзе паслоў. Як відаць, Нямеччына ня выпаўніла яшчэ ўсіх абавязаньняў датычна разбраеньня.

Як паведамляюць з **Белграду**, вярнуўшыся з Парыжа Нінчыч перадаў прэсе, што ўрад **Югаславіі** прыме ўсе меры проці тых, хто будзе выпаўняць распараджэньні 3-га інтэрнацыяналу аб дзяржаўным пераваroце.

---

# Агляд прэсы.

Орган украінскае народнае партыі, газэта „Дзвін", якая выходзіць у м. Роўным, у перадавым артыкуле пад загалоўкам „Крэсова Рада" ўсебакова разглядае пытаньне аздараўленьня нацыянальных адносін у Польшчы. „Дзвін" піша:

> ...Частая зьмена ўрадаў, анармальнае аднашэньне сіл у Сойме, пры істнаваньні якога ўтварыўся пазапарлямэнтарны ўрад, а найгалаўнейшае брак у польскага грамадзянства *скрышталізованае палітычнае праграмы* ўва ўсходнім пытаньні, давялі да таго, што Усходнія землі сталі негаючаю ранаю і ранаю гангрэнознаю. Гэтая хвароба набірае такіх грозных формаў, што ўрад ня ў сіле запабегчы гэтаму няшчасьцю. У гэткіх варунках стварылася рэконструкцыя цяперашняга кабінэту, якая, галоўным чынам, выклікана неабходнасьцю разьвязаньня ў першую чаргу праблемы нацыянальных меншасьцяў, аграрнае рэформы, адбудовы краю — нагул аздараўленьня палітычна-нацыявальных і соцыяльна-эканамічных адносін. А дзеля гэтага прыйшла крайняя пара, бо Польшча, маючы вельмі радыкальную конституцыю, сваею бесплянoвасьцю, незразуменьнем свае ролі на Усходзе ў варунках пасьляваенных, ў часе агалашэньня вялікіх лёзунгаў самаазначэньня народаў, замест таго, каб стаць цэнтрам консолідуючым і скіроўваючым славянскую думку, ў барацьбе з азіяцка-маскоўскім Drang nach Westen, — стварае ў сябе ў сярэдзіне конглёмэрат варагуючых паміж сабою народаў. Пад уплывам пэўных чыньнікаў, інсьпіруемых тым самым суседам бальшавіком, кідаюцца навет з Соймавае і Сэнацкае трыбуны лёзунгі за адарваньне украінскіх зямель і прылучэньне іх да Бальшэвіі... Зрабілася ясным, што ўрад, нарэшце, рашыў паважна прыступіць да ратаваньня загрожанае дзяржаўнасьці. І пад гэтым кутом пагляду асабліва знаменным зьяўляецца ўваходжаньне ў кабінэт п. Тугута ў характары віцэ-прэм'ера з абняцьцем якраз справаў нацыянальных меншасьцяў.

Спыніўшы сваю ўвагу на пытаньні аб вынятковым стане, аўтор артыкулу развaжае гэтак:

> Урад п. Грабскага без засьцярогаў адкінуў думку аб вынятковым стане, добра ацэньваючы, што гэткая мера нятолькі што не ўра.

---

кэй іх нязбожнасьці нейкі шмэльц зьзёг на сэрцы... Няхай вас, Міхасіха, і цябе, Разалька ваш Бут пацешыць... Выбачайце, калі што якое! Ай, Які шмэльц на сэрцы! (*Выходзіць з рукой на сэрцы. На парозе лоб у лоб зьбіваецца з* **Юрасём.** *Чуваць з аднаго боку:* «Ай-вай!» — *з другога:* «Каб це немач!»).

ЗЬЯВА 4.

**Юрась.** Чаго, цётачка, быў тутака гэты махляр? Каб ён сонца ня бачыў, колькі праз яго сьлёз у вёсцы! Гэта-ж ён сеяў у нас гэнае зельле-атруту...

**Разалька.** Не кажы так, Юрась. Хто-ж быў найболей дружны з гэтым зельлем, калі ня васпан. Жыд яе ніколі вуснамі не чапіў. А Янка ці-ж не намаўляў вас да другога зусім... (*Сядзіць, апусьціўшы галаву*).

**Юрась.** О, Янка, Янка! Многа я вінен перад ім. Разумны я па пары. Але гэты пархусіх плутаў, каб ён сьвету ня знаў! (*Садзіцца воддаль*).

**Міхасіха** (*зволька*). Скажы, Юрась: за што дзяруноўскія хлапцы прычапіліся да Янкі?

**Юрась.** Цётушка, не магу! Ня маю адвагі аб гэтым расказваць. Можа іншым разам. Скажу толькі, што не адны тут яны ў віне... І Бэрка і я... а ўсё праз гэту атруту.

**Міхасіха** (*з моцай*). Ой, дзеткі, дзеткі! Старая я: цяжка мне гэту справу ўцяміць. Мусіка найболей тут вінен гэны злосьнік з пекла... Але паслухайце, што я чула ад старшых за сябе. Даўней, як Бог гасьціў між людцоў, прывялі раз прад яго божыя стопы вялікую грэшніцу і хацелі яе каменаваць. Твары ўсіх зіхацелі нядобрым агнём. А дзяўчо пала ў стыдзе і паніжэньні на зямліцу. Тады Бог, зьвярнуўшыся да людзей, сказаў: «Хто з вас без граха, хай першы ў яе камень кінець». Маўчалі ўсе і зволька разышліся хто куды. Бог зьвярнуўся тады да грэшнай душы, кажучы: «Ідзі ў супакоі і не грашы болей»! (*Узіраецца ў твар* **Юрася**).

**Юрась.** Цётухна! Праўданька гэта сьвятая! Хай так і ў нас будзе... Эх, Божа, Ты мілы! Дай моц мне ступіць ў сьляды яго... Разалька! Выбач ты мне, як і ён мне перад сьмерцяй даравау...

(*Цалуе яе рукі.* **Міхасіха** *жагнаецца*).

ЗАСЛОНА.

КАНЕЦ.

